ганізацый асобных беларускіх палкоў не могуць мець мейсца, пакуль аб гэтым не паведаміць Цэнтральная Рада беларускіх арганізацый.

11) Кожны беларускі культурна-прасьветны гурток павінен выпісываць і пашыраць беларускія кнігі і газэты.

12) Беларускія газэты і кнігі выпісываюцца гуртком на тыя ж грошы, як кнігі і газэты расійскія і іншыя, [ротн. і палкав. суммы].

13) Грамада павінна быць, як адна згодная семья, павінна выховываць паміж сваіх членаў дэмократычныя прынцыпы і дух братэрства.

14] Усе члены беларускай грамады ў вайсковых часьцях павінны гаварыць паміж сабой па беларуску.

15) Пастановы свае і дзелаводства гурткі павінны весьці у беларускай мові.

16] Кожын член Грамады павінен вучыцца пісаць у беларускай мові і пісаць лісты да дому толькі па беларуску і паведамляць сваіх у вёску сваю пра беларускі рух.

17) Кожын беларус павінен скрозь ужываць свaёй роднай мовы.

18] Кожын гурток павінен мець свой штэмпэль.

19] Кожын член Беларускай Грамады ў войску павінен насіць беларускі нацыянальны знак—белая стужка с чырвонай палоскай па сярэдзіні; усе тры палоскі белая, чырвоная і белая аднэй шырыні.

20] Аб арганізацыі і аб усіх пастановах у далейшым сваім жыцьці і працы беларускі гурток праз свайго Старшыню павінен паведамляць Цэнтральную Раду беларускіх арганізацый.



# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

## Агульныя весткі.

### Тэрмін скліканьня Устаноўчага Сойму.

Часовы Урад пастанавіў: днём выбараў да Устаноўчаго Сойму назначыць 12 лістапада (ноября), а днём склікаьня Устаноўчага Сойму—28 лістапада 1917 г.

### Лік дэпутатаў да Устаноўчаго Сойму ад беларускіх губэрняў.

Часовы Урад пастанавіў, што ад Мінскай губ. да Устаноўчага Сойму павінна быць выбрана 14 чалавек, ад Магілёўскай і Чарнігаўскай—па 12 чалавек [Чарнігаўскай губ. толькі паўночная часьць яе беларуская], ад Смаленскай—8 чал. і ад Вітэбскай—7 чал.

### Аддзел нацыанальных спраў.

Пры міністэрстві ўнутраных спраў закладаецца новы асобны аддзел «нацыанальных спраў», якім кіраваць будзе таварыш міністра Гурэвіч.

### Пастанова Часоваго Ураду аб кіраваньні Украінай.

Часовы Урад зацьвердзіў часовую інструкцыю Гэнэральнаму Сэкрэтарыяту Часоваго Ураду на Украіні. Паводлуг гэтай інструкцыі, да развязаньня Устаноўчым Соймам пытаньня аб мяйсцовым самакіраваньні, у мяйсцовых справах на Украіні найвыжшым органам Часоваго Ураду ёсьць Гэнэральны Сэкрэтарыят, назначаемы Часовым Урадам з кандыдатаў, назначаемых Цэнтральнай Радай. Уласьць Гэнэральнага Сэкрэтарыяту абыймае сабой такія губ.: Кіеўскую, Валынскую, Падольскую, Палтаўскую і Чарнігаўскую, за вылічэньнем Мглінскага, Суражскага, Старадубскага і Новазыбкаўскага паветаў.

### Кара за абразу спагадных дзяржаваў.

Часовы Урад пастанавіў, што за публічную абразу спагаднай дзяржавы, яе вярхоўнага галавы, ураду, пасланца,—віноўныя ў гэтым будуць карацца: ні больш як трыма гадамі турмы, або фартэцыі.

### Навучэньне Закону Боскаго у школах.

ПЕТРАГРАД. Дзяржаўны Камітэт па справах народнай прасьветы пастанавіў, што Закон Боскі павінен быць ніабавязковаю навукаю у сярэдняй і ніжэйшай школі.

### Пра пачатак вайны.

Віцэ-прэзідэнт румынскае рады міністраў, Такэ-Іонэско надаслаў да рэдакцыі ангельскай газэты «Times» такую заяву за ўласным подпісам: «Падчас прабывання ў пачатку ліпня 1914 г. у Лёндані я заяўляў, што мне ўжо колькі месяцаў ведама пра тое, што Аўстрыя конча хоча ваяваць. Тагды я напісаў пра тое, артыкул да газэты «Times». Тагды я штодня бачыўся ў Лёндані з гэрманскім паслом, а праз тое мне было добра ведама, што ультыматум, пастаўляны Сэрбіі, быў добра вядомы гэрманскому ураду і быў ім ухваляны, а фон-Чыршкі прычыняўся да рэдактавання ультыматума. Ен гадаў, што Сэрбія ня зможа прыняць ультыматуму, але ўсё такі аўстрыякі баяліся, што Сэрбія прыме ультыматум. Князь Ліхноўскі, каторы асобіста бажаў міру, прасіў мяне на пярэдадні апублікаваць ультыматум у Белградзі, тэлеграфаваць Пашычу [міністру сэрбскаму Рэд.] і парадзіць яму прыняць ультыматум. Я запэўняю, што князь Ліхноўскі, каторы ужо у 1914 г. запэўняў мяне, што цяпер ужо ня можа даць веры, каб Англія зраклася нейтралітэту. Калі я яму пэўна заувaжыў, што ён вельмі памыляецца, бо Англія аніяк ні дазволіць раздушыць Францыю, Ліхноўскі літэральна адказаў так: «Я ў гэтым далёка ні так пэвян, як вы».

## З Украіны.

### Крывавыя падзеі ў Кіеві.

26-го ліпня з Кіева на пазіцыю ад'ежджалі два эшалоны украінскага палка ім. Багдана Хмяльніцкага. Першы поезд адыйшоў а 9 гадз. і 40 мін. вечару. Ад'яжджаючы, эшалон, у знак развітаньня, зрабіў салют у верх. Адначасьня з гэтым у эшалон былі зробляны выстралы ад станцыоннага дэпо. Ясна, што тут была правакацыя. На далейшай падарожы эшалону стрэляніна ў яго ўзмацнілась. Калі эшалон праежджаў міма ст. «Кіеў-пасаж.», міліцыянэры стрэлялі ў яго, аж покі ён ні схаваўся ў далі. Публіка пратэставала проціў нічым ні выклікaных выстрэлаў міліцыянэраў, але надарма. Посьля гэтага яны і кірасіры сталі набіраць патронаў і ўстрэлі падыйходзіўшы другі эшалон стралянньнем. Калі эшалон падходзіў да пасажырскага вакзалу,—стрэльніна ўчасьцілась, ні гледзючы на крыкі з адчыняных вагонаў; «не стрэляйце!» Каля сэмафору паста Валынскага поезд астанавілі і ўзялі яго пад абстрэл з кулямётаў.

Калі стрэляніна сьціхла, эшалон абступілі кірасіры і загадаўшы ўсім выхадзіць з вагонаў, сталі абезброіваць, «багданаўцаў» і адводзіць іх на станцыю. Пры гэтым «багданаўцаў» білі прыкладамі стрэльбаў і казалі: «Мы вам пакажам аўтаномію».

Забітых «багданаўцаў» налічылі 16 і зраняных каля 30. Сярод кірасіраў 2 зранена. Пэўны лік зраненых нівядомы, бо ў часі стрэляніны шмат салдатаў разбеглася і адзіночным парадкам паступае да шпіталяў.

Есьць чуткі, што ўсё гэта было падтасавана загадзя цёмнымі сіламі.

Ваеннае сьледзтва пачалася толькі 27 ліпня а 2 гадзіні па-поўдні. Ваенны сьледчы прывакзальнага участку паручык Васількоўскі, член украінскага юрыдычнага таварыства, быў адсуныты ад вядзеньня сьледзтва і заменяны другім сьледчым пар. Плятнёвым.

Усе расійскія вялікія газэты апавясьцілі сваіх чытачоў аб Кіяўскіх падзеях у такіх выразах, што як быццам «багданаўцы» зрабілі мяцеж, а кірасіры гэты мяцеж спынілі; пісалі, што кірасіраў шмат забіто і зранена «мяцежнымі багданаўцамі».

Камітэт Цэнтральнай Рады пастанавіў: зрабіць сваю сьледчую камісію, нізалежна ад урадавай.

Забітых «багданаўцаў» пахавалі з вялікай славай.

Рэзультаты афіцыяльнага сьледзтва ішчэ ні апублікованы.

## З Расіі.

### З пастановаў усерасійскага мусульманскага зьезду.

Казань 28—VII. Усерасійскі мусульманскі зьезд прыняў рэзалюцыі аб ваенных і агульных пытаньнях.

Пастаноўлено зрабіць у Казані ўсерасійскі цэнтральны камітэт.

Паатаноўлено зьвярнуцца да Часоваго Ураду аб патрэбі зьбіраньня усіх салдатаў-мусульманаў, што знайходзяцца ў тылавых районах да гарадоў з мусульманскім насяленьнем і фармаваньня на фронці мусульманскіх палкоў. На патрэбы камітэтаў гэтых палкоў завесьці ападаткаваньне афіцэраў 4-ма працэнтамі з іх пэнсіі і салдатаў—2-ма. На гэтую мэту ужо паступіло ад Тагіева 10000 р. і ад Асадалуева 5000 р.

Калі Урад ворага аднясецца да гэтай пастановы—пачаць арганізаваньне воінскіх часьцей явачным парадкам.

На выбары да Устаноўчаго Сойму ісьці разам з сацыалістычнымі группамі.

У мусульманскім пытаньні дамагацца поўнаго палітычнага і грамадзянскага раўнаправія.

Пастаноўлено зараз же пачаць правязеньне культурна-нацыанальнай аўтаноміі мусульман.

# ВАЙНА.

На Рыжскім участку Паўночна-Заходняго фронту нашы часьці адыйшліся на тыя самыя Франкендорфскія пазіцыі, ад якіх пачынаўся наш апошні наступ. Паведамленьня Штабу за апошнія дні гаворуць толькі аб перастрэлках і разведках. Можна спадзявацца, што на гэтых добра умацованых і прыкрытых ракою Аа пазіцыях удасца стрымаць нямецкі націск.

На Баранавічскім участку Заходняго фронту моцная артылярыйская страляніна, налёты аэрапляпаў і разведкі; сягды—тагды рэдкія атакі. Як відаць, немцы прабуюць туг моц нашых пазіцыяў і стараюцца нагледзіць слабое мейсцэ.

На Уладзіміра-Валынскім кірунку Паўднёва-Заходняго фронту дзеецца тое самае спрабаваньне моцы пазіцый, што і на Баранавічскім кірунку.

На Румынскім фронці наступ праціўніка спынен. Ня гледзючы на упартыя атакі немцаў, пасувацца наперад ім не ўдаецца.

На ангельска-французкім фронці ангельцы вядуць наступ на поўдзень ад Ланса.

На Італьянскім фронці. На участку ракі Ізонцо бітва ідзе даляй. Італьянцы забралі ўжо больш як 500 афіцэраў і 20000 салдатаў у няволю, апроч гэтага захоплено 60 гарматаў, шмат кулямётаў і ўсякіх прыладаў.



### Абмылкі у друку:

У № 10 у карэсп. з Рубяжэвіч напісана: «Камітэт прадае», а трэба чытаць «камітэт перадае»;

У № 12 у ст. М. Горэцкага (на 1 стр.) напісана «мо'даўчыўся у Вільні?», а трэба чытаць «мо, д а ч у ў с я;» там жэ, ніжэй напісана Lipthnaus, а трэба чытаць Litphanus.

У № 13, у адчоці «Зьезду дэлегатаў» (на 3 стр.) напісана «абразілі як члена Нацыян. Камітэту», а трэба чытаць—«не як члена Нац. Кам.»



Рэдактар Я. Лёсік.

# ДА УСІХ УЦЯКАЧОЎ БЕЛАРУСАЎ.

Браты!

Цяжкая нядоля спаткала нас ў жыцьці.

Нашые родные становішчы зруйнаваў вораг.

На чужыні, далёка ад ўсяго свайго, прыйшлося шукаць ласкі і прытулку, аддацца пад апеку чужых людзей, а якая часамі бывае гэтая апека, добра вядома кожнаму з нас. Прыходзіцца цярпець, прыходзіцца знасіць холад і голад: ні маеш свайго, танцуй пад чужую дудку.

Беларускі Цэнтральны Камітэт помачы уцякачом, ў Мінску, клічэ усіх Вас злучацца у мейсцовые гурткі і даваць яму аб сабе і аб сваім жыцьці весткі.

Хутка будзе з'езд дэлегатаў ад ўсіх такіх арганізацый.

Мы павінны злучыцца ў адну вялікую сямью і праз сваіх выбарных людзей самі кіраваць сваімі справамі. А спраў гэтых шмат набярэцца.

Трэба паклапаціцца, каб лепш, як цяпер, жылося, каб і дзеці былі адзеты, абуты і сыты, каб і у школу маглі хадзіць бяз платы.

Трэба падумаць і аб тым, як будзем вертацца назад на кінутыя становішчы, што знойдзем там і як ізноў устроімся на жыцьцё.

Усё гэта трэба абмяркаваць.

Дык не трацце часу. Злучайцеся у гурткі і пішыце Камітэту, каб ён мог паведамляць Вас аб усім, што робіцца, і аб дню з'езду.

Беларускі Цэнтральны Камітэт помачы уцякачом у Мінску. Захароўская, 18.

Выдавец—«Т-ва Беларускай Культуры»

Друкарня Н. М. Нахумова. (старшага)